Трывожна!

*Паважаная рэдакцыя!*

*Ведаю, якую ўвагу ўдзяляе "Народная воля" захаванню беларускай мовы. Таму я звяртаюся да вас па дапамогу. Прашу вас надрукаваць мой артыкул "Горкія ўрокі" аб тым, як знішчаюцца беларускія класы ў школе, дзе я працую настаўніцай. Думаю, што толькі ўвага грамадскасці можа дапамагчы захаваць беларускамоўную школу. Падобны артыкул у пачатку кастрычніка я адправіла ў "Настаўніцкую газету". Прайшоў амаль месяц, а газета маўчыць. Яе старонкі запоўнены рапартамі аб поспехах. Застаецца надзея на незалежныя выданні.*

**Аўтар.**

# Горкія, горкія ўрокі

Да гэтага навучальнага года школа №82 г.Мінска была адной з нямногіх беларускіх школ сталіцы. Тут вучыліся на беларускай мове ўсе вучні з першага па шосты клас.

З прыходам у школу новай адміністрацыі пачалося знішчэнне беларускіх класаў, знішчэнне беларускай мовы такое хуткае, такое нахабнае, што могуць спраўдзіцца словы дырэктара аб тым, што ў хуткім часе ўсе класы ў школе будуць рускімі.

Галоўную ролю ў гэтым знішчэнні выконваюць дырэктар школы А.С.Салахітдзінава (працуе другі год) і завуч пачатковых класаў А.П.Іеўлева (першы год у школе). Яны з пагардай ставяцца да беларускай мовы і лічаць яе непатрэбнай.

Усё пачалося з першых класаў. У гэтым годзе ўпершыню за апошнія 7 гадоў у школе не адкрылі ні аднаго беларускага класа. Перада мною ляжыць журнал уліку дакументаў вучняў, паступаючых у 1-ы клас. У канцы жніўня было 23 заявы ў беларускі клас.

Я не магу сказаць, што гэтыя бацькі — гарачыя прыхільнікі беларускай школы. Такіх бацькоў, якія свядома аддаюць дзяцей у беларускія класы, няшмат. На тое ёсць прычыны і ў мінулым, і ў цяперашні час. Многа гадоў назад Язэп Лёсік пісаў: "Як жа народ запатрабуе сваіх беларускіх школ, калі ён іх ніколі не бачыў". Гэтыя бацькі прывялі сваіх дзяцей у беларускую школу і былі не супраць навучання на беларускай мове. Да прыкладу, у жніўні я сама прымала заявы ў беларускі клас ад бацькоў Касцюк Дашы і Саўчанкі Антона і запэўніла іх, што дзеці будуць вучыцца на беларускай мове.

Дырэктар школы А.С.Салахітдзінава і завуч А.П.Іеўлева вырашылі, што першыя беларускія класы ім не патрэбны. Л.П.Іеўлева яшчэ і пахвалілася, што тая школа, дзе яна працавала раней, адна з першых у горадзе пазбавілася ад беларускіх класаў. Завуч і, па яе загаду, настаўніца А.Л.Лук'янава па тэлефоне і асабіста пачалі пераконваць бацькоў напісаць заяву ў рускі клас. А тых, хто не згадзіўся, папярэдзілі, што іх мала і для іх беларускі клас не адкрыюць.

З 1 верасня ў школе пачалі працаваць першыя рускія класы. Гэта стала сігналам да дзеяння для тых, у каго, як і ў адміністрацыі школы, беларуская мова выклікае непрыязнасць і пагарду. Тое, што стала адбывацца далей, можа выклікаць толькі абурэнне. Са згоды адміністрацыі школы на рускую мову навучання пачалі пераводзіць беларускія класы. Удумайцеся ў такі абуральны факт. Вучні 6 гадоў вучыліся на беларускай мове, а ў гэтым годзе ў канцы верасня 7-ы клас стаў рускім, таму што так захацелася яго класнаму кіраўніку Р.В.Ярашэвіч. Пры гэтым настаўніца і адміністрацыя спасылаюцца на жаданне бацькоў. Шэсць гадоў, большую частку школьнага жыцця, дзеці спакойна вучыліся ў беларускім класе, і раптам бацькам захацелася змяніць мову навучання, ды яшчэ ў сярэдзіне чвэрці. Відавочна, што бацькі выконваюць жаданне класнага кіраўніка.

У канцы верасня завуч Л.П.Іеўлева вырашыла папрацаваць у 2-ім класе, які застаўся без настаўніка. Гэтыя дзеткі год ужо вучыліся на беларускай мове. Першае, што зрабіла завуч, загадала бібліятэкару знайсці і прывезці рускія падручнікі, а потым правяла бацькоўскі сход, каб бацькі напісалі заявы ў рускі клас.

У пачатку гэтага навучальнага года вучні нашай школы атрымалі горкія ўрокі, якія застануцца ў іх памяці. Гэта ўрокі нянавісці і пагарды да роднай мовы, урокі адмаўлення ад беларускай культуры.

Знішчэнне беларускіх класаў у сталіцы Беларусі — гэта дзікунства, якое немагчыма ні ў адной цывілізаванай краіне. Так, у суседняй Украіне, як паведамляюць "Киевские ведомости", у гэтым годзе 98 працэнтаў кіеўскіх першакласнікаў вучацца на ўкраінскай мове. У Кіеве засталося 20 школ з рускім статусам, больш таго, у рускіх школах адкрываюцца ўкраінскія класы.

Знішчаць беларускія класы, якія з'яўляюцца нацыянальнай каштоўнасцю, могуць толькі людзі з нізкім узроўнем культуры: культуры інтэлектуальнай і культуры маральнай. Гэты нізкі ўзровень культуры дырэктара школы А.С.Салахітдзінавай праяўляецца, безумоўна, не толькі ў адносінах да беларускай мовы, а і ў вырашэнні ўсіх іншых пытанняў. З-за гэтага ў мінулым навучальным годзе са школы звольніліся завуч старэйшых класаў В.Ф.Богач, завуч пачатковых класаў Р.Я.Голец, псіхолаг школы, настаўнікі.

Зусім іншыя ўрокі даюць дарослым нашы дзеці. Гэта сапраўдныя ўрокі любві і дабра. Даведаўшыся, што ў школе не будзе беларускіх першых класаў, я прапанавала сваім вучням напісаць зварот да бацькоў будучых першакласнікаў. Вось некаторыя радкі з сачыненняў дзяцей, якім толькі 9 гадоў.

"Мы звяртаемся да бацькоў, чые дзеці пойдуць у 1-ы клас. Аддавайце сваіх дзяцей у беларускія класы. Каб вашы дзеці любілі нашу мову. Каб беларуская мова гучала. Мы любім родную мову, і вы любіце. Размаўляйце па-беларуску, дзе б вы ні былі. Гучы, беларуская мова!"

"Не адракайцеся ад роднай мовы, таму што беларуская мова знікае. Яе ўсё менш і менш, яе хутка не будзе".

"Трэба любіць беларускую мову. Трэба паважаць беларускую мову. Усе людзі любяць родную мову. А беларусы не любяць. Наша родная мова вельмі прыгожая. Паслухайце беларускія вершы, паслухайце беларускія песні, і вы самі адчуеце гэта".

"Трэба шанаваць сваю родную мову. Руская мова гэта чужая. А беларуская мова наша. Беларуская мова — гэта наша радзіма. Родная мова вельмі прыгожая і гучная".

Я думаю, што трывожная сітуацыя з беларускімі класамі, якая склалася ў школе №82 г.Мінска, прыцягне ўвагу грамадскасці і гэта дапаможа захаваць беларускамоўную школу ў сталіцы. Спадзяюся, што сваю ацэнку дзеянням адміністрацыі школы дадуць кіраўнікі органаў адукацыі. Горкія ўрокі нашай школы паказваюць, што кіруючыя кадры для беларускамоўных школ павінны падбірацца з асаблівай патрабавальнасцю. У сувязі з гэтым я хачу задаць пытанні начальніку Упраўлення адукацыі Мінгарвыканкама сп.Варыводзе. Ці адпавядае займаемай пасадзе дырэктар беларускай школы, які не хоча адкрываць беларускія першыя класы? Ці адпавядае займаемай пасадзе завуч беларускай школы, які не валодае беларускай мовай?

Безумоўна, у беларускія школы павінны прыходзіць кіраўнікі з ідэямі развіцця, а не людзі, якія нясуць з сабой разбурэнне.

**Людміла СІНЬКЕВІЧ, настаўнік-метадыст.**

SOS!

## Каб не загінула "Зубраня"

Хто не чуў пра "Зубраня" — своеасаблівы беларускі дзіцячы "Артэк" на Нарачы? Цудоўна, што дзяржава здолела захаваць гэты прывабны ва ўсіх адносінах лагер. Вось толькі вельмі ўжо марудна ідзе запланаваная рэканструкцыя і будаўніцтва новых аб'ектаў. У прыватнасці, тых жа жылых карпусоў, якія былі ўзведзены яшчэ ў 1958 годзе. У пакоях размяшчаюцца па 10—11 падлеткаў. Праўда, два гады назад пачалі і ўзвядзенне аднаго новага сучаснага корпуса на 160 месцаў, дзе ўжо дзеці будуць размяшчацца па два-тры ў кожным пакоі.

Каробка трохпавярховага прыгожага будынка ўзведзена даўно, падключана да камунікацыяў, але стаіць без вокан і дзвярэй. Ёсць надзея, што дойдуць да прызначэння выдзеленыя да канца года 6 мільярдаў рублёў і будуць зробленыя ўнутраныя і аддзелачныя работы, а на наступны год удасца здаць увесь гэты корпус у эксплуатацыю. У кіраўніцтва лагера ўжо зараз баліць галава, каго туды засяляць, бо дзеці апынуцца ў розных умовах. Такіх карпусоў трэба ўзвесці яшчэ дватры, а гэта ўжо не адзін мільярд рублёў. Побач развалены і закансерваваны будынак яшчэ адной сталовай на 280 месцаў. Былі б грошы, закончылі тады б запланаваную рэканструкцыю і гэтага будынка, значна разгрузілі б асноўнае памяшканне.

За апошні час удалося папоўніць аўтамабільны парк пяццю новымі адзінкамі транспарту. Але ж патрабуецца замяніць яшчэ 20 машын, якія эксплуатуюцца ўжо шмат гадоў. Як паветра, патрэбен яшчэ адзін аўтобус, бо перавозіць прыходзіцца не каго-небудзь, а дзетак. А яшчэ патрабуюцца значныя сродкі, каб абнавіць цеплатрасу, трубы водазабеспячэння, пракладзеныя шмат гадоў назад на вялікай глыбіні на плывунах. Важна паклапаціцца пра замену сантэхнікі, кухоннага абсталявання, тую ж месцамі адваліўшуюся плітку, замену ложкаў і шафаў, якія служаць тут многія гады. Тэхніка-эканамічныя разлікі на правядзенне гэтых і іншых работ даўно распрацаваныя і прадстаўленыя ў адпаведныя інстанцыі. Толькі пры цяперашніх тэмпах іх ажыццяўлення спатрэбіцца гадоў 20, каб давесці намечанае да ладу.

"Зубраня" такі тэрмін проста не вытрымае...

**Уладзімір ШЫК.**

Мядзельскі раён.

Позаимствуем?

# Хотите купить 100 гектаров земли? В Саратовской области продают...

## Пока в Беларуси идет одна говорильня о купле-продаже земли, на родине Столыпина уже полным ходом идет земельная реформа

*Пока депутаты Госдумы скрещивают с президентской командой копья вокруг Земельного кодекса, в Саратовской области уже полным ходом идет земельная реформа. Так и не дождавшись законодательной базы "сверху", регион в рамках Основного Закона самостоятельно определил приоритеты. Принят и местный закон о земле, и ряд других законодательных актов, позволяющих проводить куплю-продажу земельных участков. Любопытно, что число зарегистрированных сделок растет с каждым месяцем. Однако нет ни спекуляции, ни ненужного ажиотажа. Опытом первого "землеустройства" делится губернатор — председатель правительства Саратовской области **Дмитрий АЯЦКОВ**.*

Екатериновский район — один из самых отдаленных в Правобережье. Прекрасные земли — просто уникальные черноземы, замечательные, трудолюбивые люди. Но в который раз убеждаюсь — сломать психологию крестьянина очень нелегко. Сложнее, чем собрать рекордный урожай.

Подошел ко мне Николай Яковлевич, пенсионер, человек бойкий, напористый. На пиджаке по пояс ордена. "Начальства", как говорит сам, не боится. И вышел у нас с ним отчаянный спор прямо на сельском сходе. Я говорю — земля должна "работать", приносить прибыль. Продаваться и покупаться. А он отвечает: как так продаваться-покупаться? И что я имею со своего пая? Взял, говорит, у меня колхоз в аренду 22 га земли и вот как "заплатил" — вспахал мне огород, выдал 1,5 центнера зерна да 2 тонны соломы. Всего на 350 тысяч рублей, утверждает крестьянин.

Правильно, отвечаю. А если бы земля стоила столько, сколько должна, — тысячу долларов за гектар, передал бы ты, говорю, Николай Яковлевич, ее своему колхозу нищему в аренду? Наверное, десять раз подумал бы — а выгодно ли это? "Да разве ж она моя, землица-то?" — говорит вдруг пенсионер. "А чья ж она тогда?" — "Государственная!" — "Да какая ж она государственная, мил-человек? Твоя она. Собственная. Правнукам завещать сможешь".

Почесал мужик затылок — как ни крути, губернатор вроде бы прав. Только непривычно как-то: земля — и в собственности... Вот изба, корова, пара овечек или старенький "москвичонок" — другое дело.

Психология — вещь тонкая. В одночасье, с четверга на пятницу, дело не поправишь. И нет ничего удивительного в том, что собственника приходится уговаривать почувствовать себя этим собственником. Отсюда и почти две тысячи крестьян, отказавшихся получить документы на свои земельные паи. В этом нет ничего удивительного. Лозунг "Земля — крестьянам!" почти 80 лет оставался лозунгом, и только. Государство не могло, не хотело да и не умело с толком распоряжаться своим национальным достоянием. Все было общим. И ничьим. Но у земли должен быть хозяин.

Не будет ошибкой сказать — все было бы по-другому, если бы аграрные реформы нашего земляка Петра Столыпина были доведены до конца. А ведь именно в них он видел спасение России. Он рассчитывал справиться с земельной реформой за 20 лет. Но отпущено ему было едва ли десятилетие. Опыт других стран показывает: процесс реформирования — многотрудный, поэтапный. Длительный. Небольшая Пруссия, например, выходила из общины почти столетие. Что же тогда говорить о необъятной России? Нужен упорный труд, нужна продолжительная работа — так говорил российский реформатор 90 лет назад в своей речи об устройстве быта крестьян и о праве собственности, произнесенной перед депутатами Государственной Думы и вошедшей в историю хрестоматийной фразой о великой России и о великих потрясениях.

Еще одно условие Столыпина, не потерявшее актуальности и в наши дни: "Сначала успокоение, потом реформы". В Саратовской области мы начали реформы, достигнув общественного согласия. Уже больше года работает договор, скрепленный подписями полутора тысяч представителей всех ветвей власти, партий, движений, общественных организаций, трудовых коллективов. Митинговые страсти улеглись, а на заседающей по меньшей мере два раза в месяц Общественной палате ведутся острые дискуссии, в которых особая роль отводится оппозиции. Именно на оппонентах мы проверяем правильность выбранного пути и принимаем критику. Важную именно тогда, когда дело касается социальной защиты населения. Оппозиция нам напоминает, что "земельный вопрос" остается острым. Но и профсоюзы, и коммунисты области в известном смысле, как ни парадоксально, наши союзники. Поскольку и они хорошо понимают — земля должна работать. Она действительно наше общее достояние...

Будет принят Земельный кодекс — страна станет сильной. Будет сильной страна — будет слабой оппозиция. Пора признать правоту Столыпина, считавшего массовое возрастание числа земельных собственников основой стабильности государства. А стране, как никогда, нужна стабильность.

На родине аграрной реформы и сегодня можно встретить руководителей колхозов и товариществ, которые долго и много говорят о господдержке сельского хозяйства. Жалуются на трудности, объясняют, почему не смогли противостоять развалу. Но таких все меньше и меньше. Нерадивых убрали, отстранив от руководства. Неумелых научили. Слабых поддержали, вдохнув в них веру. Поддержали и финансово. Это еще один урок столыпинской реформы — мощная финансовая поддержка государства способствовала переходу от общины к фермерскому хозяйству. Тогда было выделено ссуд на 12,5 млн. рублей. Были и безвозвратные пособия — более чем на 9 млн. рублей.

В прошлом году область вложила в сельское хозяйство 1 трлн. рублей. В этом году — почти 2 трлн. рублей. Технику давали по лизингу, полностью обеспечили село ГСМ, под зерно нового урожая выдавали хозяйствам кредиты независимо от их формы собственности. Брали мы кредиты и у ведущих банков — под гарантии правительства области. Без них "саратовский калач" на 6 млн. тонн не потянул бы. Но кредиты потому и кредиты, что их возвращать надо. Понимание этой простой истины многим пришло не сразу. Однако любое сельхозпредприятие может и должно иметь возможность хозяйствовать самостоятельно. Заложив свою землю, получая под нее кредит в банке и решая тем самым проблему пополнения оборотных средств, и ТОО, и ООО, и крестьянско-фермерские хозяйства в состоянии развивать производство, делать его рентабельным. **За неполных полтора года нам удалось доказать, что сельское хозяйство может перестать быть "черной дырой", в которую утекают деньги налогоплательщиков.** Рынок продовольствия огромен. Иссякнут запасы нефти, рано или поздно прекратится оружейный бизнес, а рынок продовольствия будет всегда. И роль России на этом рынке будет огромная.

Так как же работает Закон о земле в Саратовской области?

Первое. Мы подготовили условия для возникновения этого закона. Был принят закон об ипотеке. Первыми в России мы создали свой ипотечный банк "Радоград". Тогда же каждый клочок городской земли взяли под строгий учет и контроль. Стали закладывать основы земельного рынка — работая еще вице-мэром областного центра, я хорошо знал, сколько стоит дефицитная городская земля. Тогда же начали работы по составлению государственного кадастра земель. Для нерадивых хозяев громом среди ясного неба стал местный закон "О прекращении прав на землепользование на территории Саратовской области". Разработали шкалу, по которой принимали плату за пользование землей. Внимательно изучали указы президента, главный из которых — о реализации конституционных прав граждан на землю. После подписания с Федеральным центром Договора о разграничении полномочий и предметов ведения смело заявили о начале работы над законом о земле. Подчеркну — мы имели на это право, поскольку договором зафиксирована возможность субъекта Федерации в случае отсутствия федерального закона создавать свою законодательную базу.

Второе. Что мы учли сразу? Так решили — нам нужен учет земель, их охрана, постоянный мониторинг, сохранение и повышение плодородия почв, защита от эрозии, потопления и заболачивания. Мы хотим оставить потомкам землю, которая не растаскана по клочкам и способна родить. Исходя из этого и создавали идеологию закона. Кроме того, землю требуется защищать от спекулянта. Вот почему в нашей области владеть сельхозугодьями может лишь человек, имеющий и опыт, и знания. Вот почему коттеджное строительство не угрожает плодородной пашне.

Кстати, о коттеджах. В черте города их только за год возвели 8 тысяч. Но дворцы "новых русских" стали не бельмом на глазу, налогооблагаемой базой. Учтен каждый земельный участок и фундамент. С него берется налог. И если во времена "безвременья" дельцы нахапали земельные участки и по 15 га, и больше, то теперь они вынуждены от них отказаться. Приветствуя коттеджное строительство, а оно является частью и президентской программы "Свой дом", мы используем льготную ставку налогообложения — всего 3 процента. Но если земли не используются или используются не по целевому назначению, владельцам приходится раскошеливаться. Накладно им платить за эти свои гектары как за земли промышленности. И они сдают земли. Им подыскивается новый хозяин.

Третье. Считаем важным постепенность. Разумность подходов. Усилив роль районных земельных комитетов, призываем землеустроителей не торопить события. Но проводить учебу всех крестьян. С мелом у доски доказывать, почему выгодно иметь такой закон и почему невыгодно такой закон не иметь. Учить, как в школе, — и не только руководителей среднего звена, но и фермеров, когда надо закладывать землю, а когда лучше этого не делать. Когда стоит продавать излишки, а когда лучше попридержать. Этим мы с самого начала избежали известных напряжений. Не позволили допустить земельного "МММ"...

Теперь можем с уверенностью сказать — начало земельному рынку положено. Выделено 320 тысяч земельных долей. В прошлом году зафиксировали 6836 сделок купли-продажи земли, 10683 договора аренды заключено. Выдано 3222 свидетельства о праве собственности на землю. В этом году эти результаты удвоятся. Мы знаем, сколько стоят земли области — 800 триллионов рублей. Знаем, где какой бонитет почв, где какую ставку налога использовать. От 5,6 млн. рублей до 7,4 млн. за гектар обойдутся покупателю пахотные земли. При условии, что он будет хозяином на своей земле.

Передача земли в частные владения — это действительно огромный ресурс для подъема экономики. Это и приведение к здравому смыслу изрядно запутанной системы налогов — вместо 14 нужно оставить только один, на землю. Опыт Саратовской области доказывает — Земельный кодекс может и должен способствовать превращению сельского хозяйства страны в мощный современный агрокомплекс, резко изменив жизнь крестьян. Сделав ее и лучше, и богаче. Другими словами, достойней.

**Дмитрий АЯЦКОВ.**

*("Р.г.")*

Одним абзацем

### "Миллиардеры" местного масштаба

Во время обсуждения итогов исполнения бюджета Витебский горисполком на одном из своих заседаний констатировал существование значительных недоимок от предприятий и организаций на общую сумму 60,7 миллиарда рублей (по состоянию на 1 октября). Причем 10 предприятий, являвшихся некогда гордостью Витебщины, не доплатили в городской бюджет по миллиарду и более рублей.

### Автопробегом — по...

Местная организация БПСМ намерена возродить патриотические акции советского комсомола. Одной из таких акций явился автопробег по Витебщине, во время которого пять энтузиастов БПСМ на своих личных автомобилях проехались по шести районам области. Цель автопробега — "напоминание нынешней молодежи о подвиге их бабушек и дедушек в годы Великой Отечественной войны". А чтобы цель акции выглядела солиднее, в райцентрах организовывались митинги, концерты.

### У нас будет свой праздник

Барды Витебска собираются устроить 7—8 ноября большой праздник с приглашением многочисленных гостей из Москвы, Петербурга, Минска, Могилева и других городов. С коммунистической датой этот праздник, впрочем, не имеет ничего общего — в Витебске пройдет очередной, 11-й по счету, фестиваль авторской песни "Витебский листопад". Барды съедутся в город на Двине, чтобы и себя показать в концертах, и у других поучиться мастерству в традиционных для фестиваля творческих мастерских.

### Рэкет не прошел

Группа молодых людей, один из которых был одет в форму майора милиции, сев в "Ауди" с проблесковым маячком, остановила "Икарус", следовавший с туристами в Москву. "Пощипать" коммерсантов не удалось. В автобусе, к удивлению преступников, оказались "настоящие" милиционеры, которые в ответ на выстрел из обреза применили табельное оружие. В итоге два раненых рэкетира отлеживаются в больнице, двое взяты невредимыми, одному удалось скрыться.

### Дружим с Россией

Костромская область стала уже 18-м по счету субъектом федерации России, с кем Витебщина имеет соглашения о торгово-экономическом сотрудничестве. Первый подобный договор был подписан пять лет назад, в 1992 году, с ближайшими соседями — Псковской и Смоленской областями.

**Евгений ТОМОВ.**

Независимая экспертиза

# Административно-командные методы управления экономикой смертельны для заводов и фабрик

**(Окончание. Начало на 1-й стр.)**

Нужно снизить тарифы на энергоресурсы до их реальной цены за счет проведения реформы жилищно-коммунального хозяйства, отказа от политики протекционизма. В настоящее время тариф на электроэнергию для промышленности более чем в 13 раз выше тарифов для сельского хозяйства, почти втрое выше тарифов для населения (950—70—350 руб. соответственно). Мы платим за одну килокалорию 60—70 долларов при себестоимости 18 долларов.

Много лет дебатируется и ничего не делается по пересмотру затрат, включаемых в себестоимость, приведению баланса предприятия в соответствие с европейским стандартом.

Мощности наших заводов значительно превышают потребности республики, но так и нет системы поощрения предприятий-экспортеров, в том числе посредников, за счет налоговых льгот, уменьшения процентных ставок, отмены административных ограничений, на вывоз товаров и услуг как юридическими, так и физическими лицами, других мер, в числе которых должна быть отмена обязательной продажи валютной выручки, полученной от экспорта продукции в дальнее и ближнее зарубежье.

Государству следовало бы определиться, кому оказывать поддержку и каким образом, какая должна быть стратегия по завоеванию и удержанию рынков. Сегодня на планете начинает складываться экономическая система, где ведущую роль играют транснациональные корпорации (ТНК). Они уже сейчас контролируют около 40% мирового производства. Глобальные корпорации, которыми нас так пугали, представляя спрутами, душащими весь мир, выступают в качестве позитивной силы, формирующей единую мировую экономику. Минимализируя затраты, действуя, казалось бы, в корпоративных интересах, ТНК через частное совершенствуют целое — общемировое хозяйство.

Эта экономическая система все решительнее отвергает национальные границы и ограничения государственной бюрократии. Она движется к экономической модели будущего — наиболее эффективному использованию ограниченных мировых ресурсов. Глобальные корпорации — своеобразная форма преодоления национального экономического невежества, форма примирения интересов национальных и интернациональных.

Кто у нас подумал, смогут ли выжить в одиночку наши небольшие предприятия и предприятия-гиганты? Кого из них следовало бы включить в состав транснациональных корпораций, а может, кто-то смог бы создать такую корпорацию самостоятельно? Кто это? Тракторный? "Интеграл"? "Амкодор"? Нашей стране нужно не менее 10 таких компаний, как "Вольво" в Швеции. Кто подумал, какие заводы следовало бы остановить и организовать там склады или магазины или просто снести, ибо, кроме убытков, они давно ничего не производят. Вместо этого мы гоним вал и разоряем государство, делая нищими людей.

Ясно, что мы неконкурентоспособны по большинству изделий, но почему мы не можем, скажем, продавать детали машин? Оказывается, даже этого не можем из-за налоговой политики и политики курсообразования, завышенных цен на энергоносители.

Если подытожить вышесказанное, следует сказать, что государство не знает, как управлять экономикой, и ничего, кроме вреда, экономике не приносит. Макро- и микроэкономических условий для работы нет, и перспективы, естественно, у большинства предприятий тоже нет.

Есть ли перспектива у машиностроителей республики, если условия на макроуровне будут созданы? Тогда шанс для многих будет. При этом шансы будут зависеть от тех, кто владеет и управляет предприятием.

В Беларуси неплохие машиностроительные заводы. Наилучший шанс у станкостроителей. Почти все станкостроители могли бы конкурировать на мировых рынках при условии использования импортной электроники, гидроаппаратуры, отдельных материалов, благоприятной макроэкономической среды. Эти условия необходимы для всех.

Тракторный завод, вопреки валютной политике государства, пока не потерял всю сеть продаж тракторов за рубежом, что дает ему большие преимущества. Вместе с тем у крупных заводов нет шансов выжить без серьезной имущественной реструктуризации, упрощения и адаптации к рыночным условиям системы управления предприятием. Тормозом развития предприятий, повышения эффективности их работы, как это ни прискорбно, являются многочисленные управленческие и инженерные службы. Эффективная корпоративная структура управления западными компаниями складывалась десятилетиями. Сохраняя косную, неграмотную, консервативную структуру управления нашими заводами, шансов выжить нет. Нужно создавать из заводов корпорации, компании.

Нет шансов выжить в одиночку, без интеллектуальных центров, конкретного продукта (конструкции), соответствующих технологий. Все взаимосвязано.

Многое нужно менять, но это практически невозможно в условиях административно-командной экономики, где каждый шаг нужно согласовывать, где декреты и указы алогичны.

Перспектива машиностроения страны такая же, как и перспектива всей промышленности и экономики в целом.

Творчество читателей

# Врачебные афоризмы

Если в голове твоей возникает какая-нибудь идея, не отступай от нее, ведь эта идея твоя собственная и, может быть, единственная в жизни.

* * *

Верь только тем теориям, которые исходят от корифеев, стоявших во главе познания науки, искусства, природы, человека. Когда эти теории по причине своей негодности начнут отмирать, меняй веру.

* * *

Мировоззрение стоматолога: существует зуб, а к нему прикреплен человек.

* * *

Плохого певца на хорошего не вылечишь.

* * *

Вопреки общепринятому мнению, операционный микроскоп лишь улучшает зрение, но не просветляет мозги.

* * *

Дешевле сделать нового человека, чем вылечить иного старого.

* * *

Совместное решение двух дураков всегда глупее, чем решение одного дурака.

* * *

Рекомендуемое лечение всегда согласуй с наклонностями своих пациентов. Одни из них любят принимать лекарства внутрь, другим по сердцу средства наружного применения, а душа третьих жаждет арттерапии.

* * *

Ученые утверждают, что, если рассматривать каплю воды через микроскоп, непременно увидишь, как один микроб пожирает другого.

* * *

Если белое назвать черным и повторять это многократно хорошо поставленным голосом громко и с большим чувством, то, как полагают многие, белое значительно почернеет.

**Вячеслав БЫСТРЕНИН, профессор, доктор медицинских наук.**
**Рисунки Анны ЯНКОВСКОЙ.**

Адраджэнне

# Ян Голанд вяртаецца на Беларусь

Музычнае мінулае нашай краіны, як, дарэчы, і ўвогуле мастацкае, апошнім часам выклікае цікавасць у самых розных людзей: і навукоўцаў, і музыкантаў-выканаўцаў, і слухачоў. Якім было мастацтва нашай краіны, шляхі яго развіцця, імёны, што яго поўнілі, — усё гэта вывучаецца і ўдакладняецца па сённяшні дзень. Але тое, што зараз вядома, згадзіцеся, сведчыць пра надзвычай высокі ўзровень развіцця музычнай культуры на нашых землях, прынамсі, у XVIII стагоддзі.

Тагачаснае беларускае музычнае мастацтва арганічна праявіла сябе ў кантэксце еўрапейскай культуры. Дзейнасць шматлікіх тэатраў, аркестраў-капэл, што ствараліся пры дварах магнатаў — Радзівілаў, Агінскіх, Тызенгаўзаў, за кароткі час высока ўзняла ўзровень беларускай музычна-тэатральнай культуры, а знаныя еўрапейскія выканаўцы і кампазітары, якія па запрашэнні беларускіх магнатаў прыязджалі працаваць пры дварах у Нясвіжы, Слоніме, Гародні і іншых беларускіх гарадах, надоўга (а некаторыя — і назаўсёды) заставаліся тут. Сярод музыкантаў-еўрапейцаў, для якіх Беларусь стала радзімай, трэба асобна адзначыць **Яна Давіда Голанда** (1746—1827) — кампазітара, настаўніка, тэарэтыка, чыя творчая дзейнасць аказала надзвычай вялікі ўплыў на развіццё тутэйшага мастацтва.

Імя Голанда ўжо знаёмае беларускай публіцы — найперш дзякуючы намаганням навукоўцы Вольгі Дадзіёмавай, якая знайшла ў замежных бібліятэках і прывезла на Беларусь копіі шматлікіх твораў кампазітара і неаднойчы публікавала свае даследаванні ў беларускім друку. У Мінску выконваліся фрагменты оперы Голанда "Агатка, або Прыезд пана", Беларускім радыё зроблены поўны яе радыёзапіс, але іншыя творы кампазітара, на жаль, у нас пакуль не гучалі. І гэты прабел запаўняе сёлетні **VII фестываль "Адраджэнне беларускай капэлы".**

Пастаянныя слухачы канцэртаў гэтага фестывалю з цікавасцю для сябе адкрываюць новыя старонкі нашага музычнага мінулага, якое аказваецца надзвычай плённым і насычаным мастацкімі з'явамі самага высокага ўзроўню. Багатымі на адкрыцці былі фестывалі, прысвечаныя розным перыядам беларускай музычнай гісторыі, — ад Рэнесансу і барока (1996 г.) да эпохі Рамантызму (1994), а таксама фестываль, прысвечаны беларускай літургічнай музыцы (1995).

Але ў гэтым годзе "Адраджэнне беларускай капэлы" — фестываль манаграфічны, а яго праграмы панарамна прадставяць **тры асноўныя перыяды творчасці Яна Давіда Голанда — гамбургскі, нясвіжскі і віленскі (у выкананні Ансамбля салістаў "Класік—Авангард") і пазнаёмяць слухача з фартэпіяннай музыкай кампазітара.**

Дакладных звестак пра юнацкія гады кампазітара няма, але вядома, што ўжо першыя музычныя творы Голанда друкаваліся ў Гамбургу — цэнтры тагачаснага канцэртна-тэатральнага жыцця Германіі. У 1769 годзе араторыяй таленавітага дваццацітрохгадовага творцы дырыжыраваў Карл Філіп Эмануіл Бах — на той час вельмі вядомы маэстра. Супрацоўніцтва і, відаць, сяброўскія адносіны звязвалі абодвух кампазітараў у 70-ыя гады, таму першая фестывальная праграма **"Голанд у Гамбургу"** *(4 лістапада, Зала камернай музыкі Белдзяржфілармоніі)* адкрыецца выкананнем твора Баха — Канцэрта ў трох частках.

Атрымаўшы прызнанне як кампазітар, Голанд у 1771 г. пасяляецца ў Гамбургу. Пра высокі музычны аўтарытэт Голанда сведчыць абранне яго ў 1776 годзе дырэктарам музыкі гамбургскай кафедры, а таксама рэгулярнае выкананне ў канцэртах ягоных твораў. У гэты час кампазітар стварае сімфоніі, кантаты і араторыі, вакальныя і інструментальныя п'есы, шмат якіх друкуюцца ў самых розных зборніках. **Творы кампазітара 70-ых гадоў XXI ст. — "Дывертысмент" для сімфанічнага аркестра, напісаны ў форме варыяцый на тэму Е.А.Шульца, а таксама песні са зборніка "Гульня без карт, або Гарманічныя гутаркі для пачаткоўцаў для клавіра з дзвюма скрыпкамі" (Гамбург, 1776)** — *прагучаць 4 лістапада ў выкананні ансамбля "Класік—Авангард" і салістаў-спевакоў. Дарэчы, уся музыка Голанда, што будзе прадстаўлена на фестывалі, прагучыць у інструментоўцы Уладзіміра Байдава, а пераклады нямецкіх і польскіх тэкстаў вакальных твораў на беларускую мову зробленыя Васілём Сёмухам і Уладзімірам Мархелем.*

На пачатку 80-ых Голанд па запрашэнні Караля Станіслава Радзівіла ("Пане Каханку") прыехаў у Нясвіж працаваць прыдворным кампазітарам і дырыжорам тамашняй капэлы. ***Праграма канцэрта "Голанд у Нясвіжы", што адбудзецца 6 лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі, перадае атмасферу музычна-тэатральнага жыцця аднаго з найбуйнейшых беларускіх культурных цэнтраў тагачаснай Беларусі.*** Менавіта нясвіжскія тэатральныя традыцыі абудзілі прагу кампазітара да работы ў новым для яго оперна-балетным жанры, у якім ён напісаў оперы "Агатка, або Прыезд пана", "Чужое багацце нікому не на карысць" і балет "Арфей і Эўрыдыка".

Сапраўдны поспех кампазітару прынесла опера **"Агатка, або Прыезд пана"**, якая была напісана на лібрэта знанага кампазітара і літаратара Мацея Радзівіла ў 1784 годзе, з нагоды прыезду ў Нясвіж караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Высокапрафесійны, мастацка дасканалы, гэты твор Яна Голанда меў вялікі поспех і больш за сорак гадоў ішоў на лепшых сцэнах Рэчы Паспалітай. **Шэсць нумароў з "Агаткі" прагучыць** ***у праграме 6 лістапада (Нацыянальны мастацкі музей, пачатак а 17-ай гадзіне)*** **разам з іншымі творамі, напісанымі Голандам у Нясвіжы: кантатай "Смелы, мужны Кароль Другі" (прысвечана ўладару Нясвіжа) і "Дывертысментам" для сімфанічнага аркестра; будуць выкананы таксама Марш і тры паланезы Мацея Радзівіла.**

З 1802 г. Ян Давід Голанд выкладаў на факультэце літаратуры і свабодных мастацтваў Віленскага універсітэта і кіраваў універсітэцкім хорам і аркестрам. У Вільні ён выдае "Акадэмічны трактат пра сапраўднае мастацтва музыкі", у якім абагульняе свой тэарэтыка-педагагічны вопыт, а таксама піша разнастайныя паводле жанраў фартэпіянныя п'есы і іншыя музычныя творы. Танцы, Ваенны паланез і ўрыўкі з оперы "Чужое багацце" складаюць аснову канцэрта **"Голанд у Вільні"** (***8 лістапада, Зала камернай музыкі Белдзяржфілармоніі***), **у якім прагучаць таксама творы Міхала Клеафаса Агінскага і Напалеона Орды — кампазітараў, жыццё і творчасць якіх былі звязаныя з гэтым горадам.**

Нарэшце, **канцэрт фартэпіяннай музыкі Голанда (прагучаць таксама варыяцыі ягонай дачкі Іааны), у якім прымуць удзел навучэнцы музычнага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі,** ***адбудзецца 10 лістапада ў Канцэртнай зале каледжа (Плошча Свабоды, 7, пачатак а 18-ай гадзіне).***

Мастацтва Яна Голанда, безумоўна, адна з найбольш каштоўных старонак нашай музычнай спадчыны. Таленавітасць і цудоўная натхнёнасць Голандавай музыкі злучаецца з высокім прафесіяналізмам аўтара, майстэрскім валоданнем ім тэхнікай еўрапейскай класічнай традыцыі. З любоўю і павагай ставіцца кампазітар да самых розных чалавечых пачуццяў, таму шчырасць яго музыкі — празрыстай, месцамі іранічнай ці, наадварот, пранікліваЙ і нават сентыментальна-наіўнай, але заўсёды па-класіцысцку гарманічнай і ўзнёслай — выклікае адпаведны водгук і абуджае самыя светлыя пачуцці ў слухачоў.

**Наталля СОБАЛЕВА, музычны рэдактар "Беларускай капэлы".**

